

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь,
твой народ
дачакаецца
Залацістага,
яснага дня!
М. Багдановіч.

17 (163) ЛІСТАПАД 2013 ГОД

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## СУСТРЭЧА З ПАМОЧНІКАМ

**У мінулы аўторак наш раён наведаў галоўны інспектар па Віцебскай вобласці Мікалай Дамашкевіч. У ходзе рабочай паездкі Мікалай Фёдаравіч спачатку завітаў на Обальскі керамічны завод, затым адбылася сустрэча з насельніцтвам.**

Безумоўна, у першую чаргу памочніка кіраўніка Беларусі непакоіць эканамічнае становішча вытворчых аб'ектаў. А яно ў нашым раёне, мякка кажучы, незайздроснае.

Год таму сітуацыя на Обальскім керамічным заводзе ўвогуле была крытычная: два-тры рабочыя дні на тыдзень, вялікія запасы цэглы, скарачэнне персаналу. Будучыня прадпрыемства, як горадаўтвараючага, а разам з ім пасёлка Обаль апынулася пад пагрозай. Перадусім ляжачы завод абяцаў вывесці з крызісу і былы прэм'ер-міністр Сяргей Сідорскі, які таксама пабываў на прадпрыемстве.

Праўда, сёння заводу ўдаецца трымацца "на плыву". Яшчэ на пачатку 2013 года збылі залежы прадукцыі, правялі частковае абнаўленне састарэлага тэхналагічнага абсталявання. Былі зроблены капіталаўкладанні. Да прыкладу, 2,4 мільярда рублёў было выдаткавана з інавацыйнага фонду Віцебскага аблвыканкама.

Дала свой плён і аптымізацыя кадраў, якая ў першую чаргу датычылася адміністрацыі. Па-новаму пачалі працаваць спецыялісты і ў аддзеле продажу. У Маскве быў адкрыты дылерскі пункт. Аднак большасць рабочых усё ж разбеглася на заробкі за межы раёна, і кіраўніцва цяпер прыкладае намаганні, каб людзі вярнуліся.

Але як падняць прэстыж прадпрыемства, калі толькі адных даўгоў за газ і электраэнергію пастаянна вісць аж да 30 мільярдаў рублёў? Да таго ж сярэдні ўзровень зарплаты 500 долараў, дэклараваную кіраўніком дзяржавы ніхто не адмяняў. Апроч гэтага, на Обальскім керамічным заводзе заняты толькі 53% вытворчых плошчаў. Галоўны інспектар Мікалай Дамашкевіч назваў недаравальным той факт, што ў агульнай структуры расходаў прыродны газ займае 68% (толькі за 6 месяцаў бягучага года за газ заплацілі 36 мільярдаў рублёў).

Дырэктар ОКЗ Павел Манак прызнаў, што на сённяшні дзень заводу патрэбна сур'ёзная фінансавая дапамога на мадэрнізацыю прадпрыемства. Лічбы ўнушальныя. Патрэбна больш за 4 мільёны еўра, каб пачаць рэканструкцыю, з іх толькі 2,5 мільёна на новае абсталяванне. Але Мікалай Дамашкевіч лічыць, што такія вялікія грошы заводу ніхто не дасць, пакульна на прадпрыемстве не будуць распрацаваны канкрэтныя планы па вывадзу завода з крызісу. Падобна на тое, што стаўка старшыні райвыканкама Уладзіміра Куранного на "умацаванне дысцыпліны і парадку" не спраўдзілася. Адказныя работнікі разбегліся, а прафесіяналы з расейскіх ваяжоў не вярнуліся.

Падчас прыёму грамадзян Мікалай Дамашкевіч адказаў на вусныя і пісьмовыя пытанні, якія датычыліся вырашэння праблем камунальна-бытавога характару. Па зваротах завадчан былі зроблены даручэнні. Так, жыхарка г. п. Обаль М. Л. Іванова ад імя работнікаў ОКЗ паскардзілася, што пешаходная дарожка ад завода ўздоўж трасы ў накірунку Шуміліна знаходзіцца ў аварыйным стане. Зрабіць рамонт было указана дырэктару камунгаса Івану Штуро. Пракурору раёна было даручана разабрацца і па зваротах жыхаркі г. п. Обаль С. М. Рамарэнка (пытанне жыллёвага заканадаўства), а таксама жыхара райцэнтра У. А. Аўчыннікава (аб выплаце кампенсацыі за знесены дом).

Да галоўнага інспектара вобласці звярталіся і людзі з прыватнымі ініцыятывамі.

Так, прадпрымальнік Уладзімір Латыш хоча займець у Шуміліне хакейную пляцоўку. На яго думку, тых каткоў, якія заліваюцца зімой, недастаткова. Патрэбна спецыяльная пляцоўка, напрыклад, такая, як па вуліцы Кірава ў Віцебску. Пры гэтым прадпрымальнік запэўніў, што прадстаўнікі малога бізнесу гатовы патрымаць ініцыятыву матэрыяльна.

На заканчэнне памочнік кіраўніка Беларусі Мікалай Дамашкевіч адзначыў, што многія пытанні, з якімі людзі прыйшлі на прыём, павінны вырашацца на мясцовым узроўні. А гэта ўжо не што іншае, як папрок у адрас мясцовых органаў улады, якія не могуць справіцца нават с дробязнымі бытавымі праблемамі.

**Алесь Шумскі**

***ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY***

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## КАЗА – КАРОВА БЕДНАТЫ

**Кіраўнік раёна Уладзімір Куранны пачаў радыкальныя рэформы ў жывёлагадоўлі. Некалькі ферм, на якіх з года ў год атрымліваюць "казіныя" надоі, будуць расфарміраваныя.**

На пашыранай нарадзе райвыканкама ішла гаворка аб дысцыпліне і фактах безгаспадарчасці. У ходзе аналізу высветлілася, што сельгаспадаркі раёна дапусцілі зніжэнне вытворчасці. Да прыкладу, у гэтым годзе зерня атрымалі на 12 тысяч тон менш. Аднак удзельная вага зарплаты павінна быць не болей за 25% -30% у агульных расходах, у той час як на сельгаспрадпрыемствах раёна яна вагаецца ад 52% да 98%.

Прагучала крытыка ў адрас тых гаспадарак, якія безнадзейна адсталі ад сучасных стандартаў. Хіба можна плаціць дастойныя грошы за такую работу, калі жывёлаводы фермы Андрэева з "Ульскага" дояць 2,87 літра на карову? І гэта – не адзінкавыя прыклады. На ферме Кардзя з "Мішневіч" (2 літры), ферм Латкова (3,68 літра) і Гаравыя, (3 літры) з "Лаўжанскага", ферм Слабада (1,8 літра) і Лескавічы, (2,38 літра) з "Шумілінскага райаграсэрвісу".

Уладзімір Куранны параўнаў нізкія надоі калгасных кароў з казінымі. Як вядома, сярэднестатыстычны надой добрай казы складае 5 літраў. Відавочна, што далей утрымліваць нерэнтабельныя аб'екты няма сэнсу. Таму старшыня райвыканкама вырашыў закрыць занядбаныя фермы і аддаў адпаведны загад аб іх расфарміраванні.

Як тут не ўспомніць публікацыі стогадовай даўніны "Віцебскага кур'ера" на тэму "Каза- карова бедняка".Ёсць на гэты конт яшчэ больш наглядныя матэрыялы. Напрыклад, у 1914 годзе газета "Паўночна -заходняе жыццё" пісала аб становішчы сялян так: "Наша вёска – цяперашняе Някрасаўскае сяло Дзіравіна .... Цікавым у сувязі з гэтым будзе і ліст графа Бржастоўскага у Віленскі паветовы камітэт аб патрэбах сельскагаспадарчай прамысловасці Дзісенскага павета."У сялян быдла і коні не заслугоўваюць нават свайго звання, гэта сумесь крэтынізму са схудненасцю, бедныя карлікі, ледзь існуючыя, нешта тыповае, узбуджальнае самоту ..."

**Сяржук Горкі**

ГАНДАЛЬ

## НОВЫ КАФЕТЭРЫЙ ЗАПРАШАЕ

**У мінулую суботу ў цэнтры Обалі гасцінна адчыніў дзверы новы кафетэрый.**

Зараз пасля рамонту былой кулінарыі наведвальнікі могуць пабачыць тыя змены, што адбыліся ў памяшканні гандлёвага цэнтра. Іх адразу відаць: прывабны інтэр'ер, новыя сучасныя канапы і сталы, вітрыны і халадзільнікі, барная стойка.

Кіраўнікі райспажыўтаварыства спадзяюцца, што кафетэрый стане яшчэ адным месцам для культурнага адпачынку не толькі прыезджых, але і для абальчан. Сюды можна зайсці паабедаць, тут прапануюць гарачыя стравы, або проста выпіць кубачак кавы с прысмакамі на мяккіх канапах. Утульнасць, камфорт, сучасны стыль разлічаны на 20 пасадачных месцаў. Нядаўна набылі вялікі тэлевізар "Самсунг".

На другім паверсе обальскага кафэ можна ладзіць вечары, сямейныя святы, вяселлі. Гарадскі пасёлак Обаль немалы – у ім пражывае больш за дзве тысячы жыхароў. Да таго ж побач праходзіць аўтатраса Віцебск-Полацк. Цяпер работнікі райспажыўтаварыства павінны працаваць так, каб было зручна і абальчанам, і прыезджым. А для гэтага неабходна, каб адпаведны асартымент гандлёвай кропкі таксама быў на высокім узроўні.

**С.Горкі**

САЦЫЯЛЬНАЯ ПРАБЛЕМА

## ТРЭЦЬ НОВАРОДЖАНЫХ -- Ў НЯПОЎНЫХ СЕМ'ЯХ

**Па нараджальнасці раён займае трэцяе месца ў вобласці. Аднак усё больш сямей распадаецца, а дзеці застаюцца без бацькоў.**

Паводле даклада начальніка аддзела загсу райвыканкама І. І. Кісялевіч, за студзень-верасень бягучага года аддзелам загсу і сельвыканкамамі зарэгістраваны 683 акты грамадзянскага стану. У тым ліку 169 нараджэнняў (+5,8%), 282 выпадкі смерці, 145 шлюбаў, 63 устанаўленні бацькоўства, 15 разводаў, адно ўсынаўленне. Як паказвае статыстыка, трэць нованароджаных з'яўляецца ў няпоўных сем'ях, і гэта выклікае трывогу ў чыноўнікаў.

Галоўны ўрач раёна К. Ф. Баканаў прызнаў, што па нараджальнасці Шумілінскі раён на трэцім месцы ў вобласці (пасля Расонскага і Верхнядзвінскага раёнаў), знізілася і смяротнасць. Тым не менш, не можа не насцярожваць той факт, што ад знешніх прычын (самагубствы, атручэнні, дарожна-транспартныя здарэнні і інш.) развіталіся з жыццём 39 чалавек, сярэдні ўзрост якіх быў 47 год. А калі прыплюсаваць сюды тых, у каго пасля выпітых некантралюемых чарак адказала сэрца, зашкаліў ціск ці іншы орган адмовіў у жыцці? Адносіны да спіртнога – здароўе – сям'я – дабрабыт (уласны і дзяржаўны) – звёны аднаго ланцужка, аслабее адно – разваліцца ўвесь ланцуг.

**Я. Вайтовіч**

СЯМЕЙНАЕ ВЫХАВАННЕ

# РАЙВЫКАНКАМ НЕ АБАРАНІЎ ДЗЯЦЕЙ

**У Шумілінскім раёне выяўлены шэраг недахопаў выканання нормаў Дэкрэта № 18. Адказныя службы маюць самыя нізкія паказчыкі кампенсацыі грашовых сродкаў абавязанымі асобамі ў вобласці.**

На пасяджэнні каардынацыйнай рады і камісіі па справах непаўналетніх у аблвыканкаме было разгледжана выкананне патрабаванняў Дэкрэта № 18 на месцах, эфектыўнасць работы дзяржаўных органаў. У прыватнасці, было адзначана, што ад якаснага ўзаемадзеяння і пісьменна арганізаванай працы на месцах залежаць станоўчыя паказчыкі ў рабоце. Паводле слоў намесніка старшыні аблвыканкама Уладзіміра Цярэнцьева, не ўсе райвыканкамы спраўляюцца з гэтай каардынуючай функцыяй.

Нядаўна ў Шумілінскім і Гарадоцкім раёнах рэспубліканскай міжведамаснай камісіяй быў праведзены маніторынг выканання нормаў Дэкрэта № 18, які выявіў шэраг недахопаў. Як высветлілася, на ШумілінШчыне пакрыццё сродкаў на ўтрыманне дзяцей абавязанымі асобамі складае толькі 46,6 %, вяртанне дзяцей у сям'ю - 21%. Затое па колькасці накіраваных у ЛПП на перавыхаванне бацькоў Шумілінскі раён выйшаў у лідэры.

На думку ўдзельнікаў пасяджэння прычынай неспрыяльнай сітуацыі з'яўляецца адсутнасць наладжанага механізму ўзаемадзеяння розных службаў. Яшчэ няма поўнага кантакту паміж адказнымі органамі, таму схема работы дае збой. Незразумела, дзе тая прафілактычная праца, папярэдняя гэтым крайнім мерам адабрання дзяцей з сям'і? Таму прынята рашэнне даць час на выпраўленне сітуацыі, а па выніках першага квартала наступнага года на ШумілінШчыну адправіцца рабочая група для ацэнкі дзеяннаў кіраўніцтва.

У працэсе абмеркавання было ўзнята пытанне аб мэтазгоднасці ўтрымання прытулкаў (памяшканняў, ставак), калі штат супрацоўнікаў больш за колькасць якія знаходзяцца ў іх дзяцей. Эфектыўнасць працы гэтых устаноў неабходна праверыць і павысіць, напрыклад, паставіць ў абавязак работнікам прытулкаў дадатковыя функцыі. А дзяржаўным органам на месцах рэкамендавана прыняць больш рашучыя меры па павышэнні адказнасці бацькоў.

Дарэчы, за апошнія сем гадоў на Віцебшчыне сацыяльнае сіроцтва скарацілася ў два разы. У гэтым годзе рашэннем камісіі ў нядобрасумленных бацькоў забралі ў два разы менш дзяцей, якія маюць патрэбу ў абароне, чым у мінулым: 265 супраць 465. З іх вернутыя ў сем'і 62 % дзяцей.

**Уладзімір Амбросаў**

ТРАГЕДЫЯ

# У ЖАХЛІВАЙ АВАРЫІ ЗАГІНУЛІ МАЛАДАЖОНЫ

**Маладыя везлі вясельныя падарункі і ехалі ў Шумілінскі раён, куды іх адправілі на размеркаванне.**

Трагічнае здарэнне адбылося каля 20-й гадзіны ў сераду 20 лістапада на трасе М-3 непадалёк ад горналыжнага комплексу "Лагойск".

Сталі вядомымі падрабязнасці. Малады кіроўца пайшоў на абгон, але не разлічыў, і машына ўрэзалася ў сустрэчную фуру. І тут жа яшчэ адзін грузавік, «Сканія», ударыў у легкавік, які адкінула.

Кіроўцу легкавіка «Сітраэн Ксара» не ўдалося выканаць бяспечны абгон на вузкім участку дарогі, таму адбылося лабавое сутыкненне с фурай. Загінулі два чалавекі. На месце здарэння працавалі экстранныя службы, супрацоўнікі Следчага камітэта.

– Па словах кіроўцы грузавіка «Мэрсэдэс», калі ён пабачыў, што яму насустрач ляціць легкавік, ён максімальна ўзяў управа, але ж грузавік вялікі, таму «Сітраэн» усё адно зачапіў прычэп, – тлумачаць у прэс-службе УДАІ.

23-гадовыя Ганна Саўчук і Максім Вечар пабраліся шлюбам у суботу, 16 лістапада. Яны былі прыхаджанамі пратэстанцкіх цэркваў: ён – «Ласкі Божай» у Ваўкавыску, яна – «Выратаванне» ў Баранавічах.

У Баранавіцкай грамадзе і прайшло вяселле.

Маладыя кіраваліся ў Шумілінскі раён, куды іх адправілі на размеркаванне. Везлі з сабой вясельныя падарункі… Аўтамабіль маладыя купілі ў Мінску за дзень да аварыі.

Ганна па размеркаванні ўжо працавала бухгалтаркай у Шумілінскім райвыканкаме.

**euroradio.fm**

ЭНТУЗІАСТЫ

# "КАНЕЦ СВЕТУ" ПАД ШУМІЛІНА

**Як паспяховы сталічны прагараміст і бізнэсовец стаў хутаранінам-пустэльнікам.**

Пяць гадоў таму паспяховы сталічны жыхар і прадпрымальнік Дзмітрый Воінаў пакінуў сваё мінулае, як прачытаную газету на палічцы ў купэ цягніка. Кінуў Мінск, яго шум, мітусню, кругазварот людзей у прыродзе і з'ехаў на маленькі хутар Узрэчча ў Шумілінскім раёне. Назусім. Былы праграміст завода " Інтэграл " стаў хутаранінам - пустэльнікам. Купіў на беразе Дзвіны дом. Амаль не гледзячы і не прыцэньваючыся.

–Я выбіраў не гэтулькі дом, колькі прыроду вакол. Ведаў, што ў гэтых месцах выдатныя лясы, якія славяцца паляваннем. Прыехаў, і мы пайшлі з гаспадаром глядзець лес. І тут мне ледзь не сеў на галаву арлан -белахвост! Зусім побач праляцеў. А бо гэта рэдкая ў Беларусі птушка. І я тут жа купіў гэты дом, побач з такім шыкоўным лесам. Дарэчы, тут адно з нямногіх месцаў у нашай краіне, дзе наогул не чуваць траса, – распавядае Зміцер.

Цішыня тут – да звону ў вушах. Гэта нават не цішыня, а бязгучнасць. У некалькіх метрах ад сцяжынкі, якая сыходзіць у глыб лесу, стаіць дом. Увесну тут спяваюць салаўі . Улетку спее сіні вінаград і паспяваюць гарбузы. А ўзімку тут блукаюць ваўкі. І зусім па суседстве, у паўкіламетры адсюль, жыве рысь. Але гаспадар гэтай хаткі іх не баіцца. Ён з імі водзіць добрае знаёмства.

–Перад тым як назусім пераехаць, я наведваўся сюды, як на дачу. А ў Шуміліна пабудаваў лесапільны завод. Але вытворчасць не пайшла. У райцэнтры цяжка зарабіць грошы. Непітушчых мужыкоў днём з агнём не адшукаеш. А п'яніцы мне навошта? Адрэжуць рукі, мне ж потым за іх і адказваць. Прыйшлося кінуць гэтую задуму. Вельмі шкадую, што наогул узяўся за гэты завод .

– А як жа Менск? Няўжо зусім там не бываеце ?

– Бываю. Але вельмі рэдка. Там у мяне жывуць дзве дочкі, унук і ўнучка, сястра. Толькі адвык я ўжо ад горада. Мне там ўсё ўжо здаецца дзіўным і непатрэбным. У Менску мне няўтульна.

Сам Зміцер кажа аб сваім месцы жыхарства проста – " канец свету". Гэтак жа называецца і яго блог аб паляванні, рыбалцы, экалогіі, падарожжах і жывой прыродзе.

Прадукты былы мінчанін зараз купляе не ў гіпермаркетах, а ў аўталаўцы. На далёкі хутар яна прыязджае два разы на тыдзень.

Наогул побыт у Воінава падобны на яго прозвішча – спартанскі . Толькі самае неабходнае. З незвычайнага ў вясковай хаце – душавая кабіна. Усё астатняе – чаканае, калі ты прыехаў у госці да паляўнічага. На сценах вісяць шкуры і рогі – сваціельні, сушацца лекавыя травы. На каміне – трафеі: высушаная галава шчупака, якая важыла каля 12 кг, і звярыныя чэрапы. "Гэта чэрапы розных жывёл Беларусі – ад мядзведзя да тхара. Няма толькі ласкі і гарнастая.

– Хіба вам ніколі -ніколі не бывае самотна? Усё ж цяжка так, вось з парога, паверыць, што чалавек ніколькі не пакутуе ад бязлюддзя і бязмоўя .

–На самай справе ў мяне часта бываюць госці, прыязджаюць сябры-паляўнічыя. Ды і па скайпе ўвесь час з кімсьці маю зносіны. Праблема ў мяне тут толькі адна - павольны інтэрнэт.

Дзень у Воінава заняты пад завязку. Мяркуйце самі. Трэба даглядзець гаспадарку – пакарміць трусоў і коз, апошніх падаіць.

Ёсць яшчэ агарод, на якім мужчына гадуе гародніна "па адмысловай тэхналогіі", а потым сам робіць закаткі. Вінаграднік. Штогадовы ўраджай – каля паўтоны ягад. Сажалка, у якім шмат рыбы. Сажалка прыватызаваная, дарэчы. А вось ад поля, якое дасталося яму разам з домам, Дзмітрый ледзь адхрысціўся:"Хадзіў, маліў, каб таму ў калгас забралі".

Удвары - невялікая сталярка: "Вось, збіраюся пабудаваць новую лазню. Старая згарэла. А там, на беразе сажалкі, добра: памыўся, выскачыў - і боўць у ваду!"

Сам сабе ён зрабіў і лыжы. Наогул у яго ўладаннях практычны падыход да ўсяго. А на многіх прадметах яшчэ і геній інжынернай думкі. Так, касцёр адначасова з'яўляецца гаражом. Каля альтанкі з мангалам варта "ліхтар " – з трохгаловага ствала.

Воінаў – першы ў Беларусі паляўнічы, у якога з'явіўся бясшумны е- байк, падобны на джып - з двума міні - маторамі і магутным святлом.

Воінаў ведае дзве замежных мовы- нямецкаю і англійскую. Вядзе блог.Пішакнігі, артыкулы аб прыродзе і паляванні для беларускіх і нямецкіх спецыялізаваных выданняў. Гэтым і зарабляе. Кажа, што веданне прафесійнай паляўнічай лексікі прыносіць вельмі няздрэнныя ганарары ад заходніх часопісаў.

І ўсё ж галоўнае, чаму ён тут, – гэта Прырода. Паляванне. А ў апошні час усё часцей – фотапаляванне .

"Я не паляўнічы і ня рыбалоў. Я – сузіральнік"

Паляўнічы стаж у 59–гадовага Воінава – 41 год. Але ў рэальнасці – больш, з самага дзяцінства. Дзмітрый нарадзіўся на Урале, у Чэлябінску. Бацька быў мікрабіёлагам, часта ездзіў у камандзіроўкі і браў з сабой сына. "У 4 класе бацька падарыў мне вазду шку. З яе нават вераб'я ня заб'еш. Але практыка з'яўляецца. Аднойчы я ўсю ноч страляў па ізюбрам, адганяў іх ад месца начлегу: яны падышлі пад вокны і крычалі благімі галасамі, спаць перашкаджалі ..."

За пітной вадой Дзмітрый ходзіць у лес. Там калодзеж. Вада смачнейшая! Але вакол небяспека. Лёгка можна падвярнуць нагу. Нават маленькі і вёрткі джып не ўсюды можа прабегчы .

– Раней гэта быў вельмі прыгожы бор, а цяпер вось адзін буралом. 130-140 гадоў гэтаму лесу было. Ну так, стары, трэба было спілаваць. Але не такім жа варварскім чынам высякаць дзялянку! Зараз гэта зона адрыньвання для жывёл, тут не пройдзе ні алень, ні казуля. Неўзабаве лес зарасце шыпшынай, тады не пройдзе і чалавек. Акрамя таго, гэта "знаходка " для верхавога пажару, які ўмомант можа знішчыць вялікі лес, – кажа Зміцер.

Гэты чалавек ўсёй душой перажывае за лес і яго насельнікаў. Вось калі б пра гэта яшчэ пякліся і ўлады, кожны канкрэтны чыноўнік на канкрэтна сваім працоўным месцы.Бо,як вельмі даўно казаў Цыцэрон,"пры кіраўніцтве прыроды памыляцца ніякім чынам нельга".

**Ігар Мацвееў**
**news.tut.by**

## АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

ДАТА

*26 кастрычніка дзень народзінаў У. Караткевіча*

# МОЖНА ЎСЁ…

*Можна ўсё: пусціць каханне дымам,*
*Узяць і занядбаць мінулы шлях.*
*Але толькі - не любіць Радзімы*
*З чорнаю павязкай на вушах,*

*З чорнаю павязкаю на вуснах,*
*З чорнаю павязкай на вачах.*
*Толькі слухаць словы нездрадлівыя,*
*Толькі не тлуміць яе маной,*

*Бо адным мы вінны пакуль жывы*
*Перад нашай вялікай нівай:*
*Праўдай абавязаны мы ёй.*
*Ісцінай.*
*Адзінаю.*
*Адной.*

МЫ Ў СВЕЦЕ

# УСХОДНЯЕ ПАРТНЁРСТВА

**Што даў Беларусі ўдзел у праграме Еўрапейскага Саюза "Усходняе партнёрства", чарговы саміт якой пройдзе ў канцы лістапада ў Вільні?**

Большинство экспертов называют Беларусь аутсайдером инициированной Евросоюзом программы "Восточное партнерство". Насколько справедливо это утверждение, и что дало Минску участие в этом проекте?

Об этом накануне саммита "Восточного партнерства", рассуждают белорусские аналитики и политики.

**Момент психологический и имиджевый**

"Страна по-прежнему имеет возможность геополитической альтернативы - это главное, что дало "Восточное партнерство" Беларуси", - полагает политолог, зампредседателя Движения "За Свободу" Александра Милинкевича Алесь Логвинец. Он напоминает, что основная идея авторов проекта заключалась во втягивании Минска в сотрудничество - двустороннее и многостороннее - с ЕС и другими пятью странами-участницами программы - Азербайджаном, Арменией, Грузией, Молдавией и Украиной.

Однако, отмечает старший аналитик Белорусского института стратегических исследований (BISS) Денис Мельянцов, на уровне межгосударственных отношений "Восточное партнерство" на данный момент не дало практически ничего, за исключением того, что у Минска появились дополнительные аргументы в отношениях с Россией.

Если Москва будет не очень сговорчива в ходе различных переговоров, в том числе касающихся интеграционных проектов, у Беларуси, поясняет эксперт, есть возможность налаживать более тесные отношения с Западом.

**Противоречия и успехи**

"Сама природа и ЕС, и Пражской декларации", которую подписали власти Беларуси, не являются аполитичными, замечает Алесь Логвинец. В декларации прямо указывается, что ЕС будет содействовать демократизации, пост-роению правового государства, а в этом плане в Беларуси слишком много проблем, напоминает эксперт.

В свою очередь Денис Мельянцов отмечает, что успехи в сфере приграничного сотрудничества напрямую не связаны с "Восточным партнерством", речь идет о двусторонних отношениях Беларуси с Литвой, Латвией и Польшей. Причем если с Латвией проект малого приграничного движения уже работает, то в случае с Литвой и Польшей соглашения хоть и ратифицированы, но не вступили в силу. Причину Мельянцов видит в относительно лояльном отношении Риги к Минску и политических разногласиях белорусского руководства с Варшавой и Вильнюсом.

При этом аналитик BISS согласен с позицией МИД, когда речь идет о разнице отношения ЕС к Беларуси и, например, к Азербайджану.

***"Нямецкая хваля"***

АНЕКДОТ

Калі ўкраінцы хочуць у Еўропу, яны выходзяць на Майдан. Калі беларусы хочуць у Еўропу, яны з 5-й раніцы займаюць чаргу ў пасольства.

* * *

Сустрэча выпускнікоў з Беларусі:
— Дарагія аднакласнікі! Я так рады, што мы зноў сабраліся ўсе разам, хоць жыццё і раскідала нас па ўсёй Расіі…

* * *

Мужык сядзіць у бары і п'е. Іншы мужык у яго пытаецца:
- Ты навошта п'еш?
- Каб быць прыгожым.
- Пьянка цябе робіць прыгожым??
- Вядома! Калі я прыходжу дадому з бара, жонка мне ўвесь час кажа: "О! Прыйшоў, прыгажун!"

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# НЕ НАРОДЕЦ, А НАРОД

**Янукович играл между Европой и Россией, но появился новый игрок – народ.**

Это мероприятие было запланировано давно.

За неделю до Вильнюсского саммита, на котором Украина должна была подписать договор об ассоциации с ЕС, в столице Литвы концертами возле Ратуши должна была начаться культурная акция «Украина приветствует Европу, Европа приветствует Украину». Подписание перенесено. А вот концерты начались.

В субботу это было грустное зрелище. «Україна це Європа, ми будемо в Європі», - настойчиво убеждали гости. Самих себя в первую очередь. А в ответ слышались жидкие сочувствующие хлопки.

И песни казались сплошь заунывными, и погода отвратительной, и артисты замерзшими, и публика вялой, и ведущую хотелось обнять, чтобы не расплакалась…

Но в воскресенье все поменялось. В режиме он-лайн передавали вести с Майдана. И закарпатская Маричка оказалась совсем не заунывной. И энергетика в ней появилась, и ритм, и жизнь…

Потому что народ вышел на площадь.

Народ! Вышел!

В самой ратуше в это время проходила конференция польских, литовский, украинских, белорусских, российских интеллектуалов. Вести с Майдана поменяли настроение и тут, среди профессиональных пессимистов. Было: «Россия… Проклятие и ужас…» Стало: «Да, ужас. Но не ужас, ужас, ужас».

И вдруг вспомнили, что Янукович до сих пор ничего не сказал. И что в феврале должен пройти саммит Украина-ЕС, так что договор об Ассоциации можно подписать на нем. И что Путин, играя в мачо, ведет политику, опасную в первую очередь для самой России. Да и кто сказал, что Россия сильна? Никто. Просто пока очень слабы ее соседи.

Это необъяснимо никакими законами физики, но энергетика с Майдана передалась за тысячи километров.

«Когда пришли вести из Киева, у меня были слезы на глазах, - признался Адам Михник. – Теперь Украина восстанет из пепла. Игнорировать народ никто не сможет. Янукович играл между Европой и Россией, но появился новый игрок – народ».

У меня слез не было. Но была радость. И гордость. Потому что если у Украины получится, то и нам потом будет легче.

Мы часто задаемся вопросом: «А зачем нужны уличные акции? Какой в них смысл?» Вот в этом и есть главный смысл – показать, что в стране есть народ. Не население, не народец, а народ. И тогда его энергетика творит чудеса.

Украина все равно будет в Европе! И Беларусь будет!

**Светлана Калинкина**
**«Народная воля»**

УСХОДНІ СУСЕД

# ШТО ПАКАЗАЛА «КАЛІЙНАЯ ВАЙНА»

**З экстрадыцыяй Уладзіслава Баўмгертнэра беларуска-расейскую «калійную вайну» можна лічыць скончанай. (Далейшы асабісты лёс гендырэктара «Ўралкалія» з гэтага гледзішча ўжо мала цікавы). Можна падводзіць вынікі.**

Найперш, варта адзначыць, што афіцыйны Менск атрымаў палітычную і псыхалягічную перамогу. Адбылася помста «Ўралкалія» за ягоныя брутальныя дзеяньні па разбурэньні сумеснага збытавога картэля — Беларускай калійнай кампаніі (БКК).

Лукашэнка дамогся прыніжэньня Расеі і ягонага кіраўніцтва. Мала таго, што былі праігнараваныя шматлікія патрабаваньні высокіх афіцыйных асобаў РФ аб вызваленьні Баўмгертнэра. Каб залагодзіць беларускія ўлады, у Менск прыяжджалі намесьнік генпракурора Расеі, сам генэральны пракурор Юры Чайка. У чарзе да Лукашэнкі стаялі з падарункамі топ-мэнэджэры найбуйнейшых расейскіх дзяржаўных бізнэс-структураў: прэзыдэнт кампаніі «Роснефть» Ігар Сечын, кіраўнік «Газпрома» Аляксей Мілер і старшыня праўленьня «Ашчадбанка» Расіі Герман Грэф.

Больш за тое, сам Уладзімер Пуцін два разы прыяжджаў у Беларусь (на вайсковыя вучэньні і на саміт СНД і Мытнага саюзу), у момант, калі гендырэктар «Уралкалія» працягваў знаходзіцца пад арыштам. І, як паведамляла прэс-служба расейскага прэзыдэнта, пытаньне пра «калійнага вязьня» абмяркоўвалася на перамовах паміж прэзыдэнтамі. Просьба кіраўніка Расеі засталася без задавальненьня.

Як вядома, Менск запатрабаваў зьмены галоўнага акцыянэра «Ўралкалія». Іякгэтані выглядае дзіўна, патрабаваньне было выканана. За акцыямі Керымава нават выстраілася чарга.

Лукашэнка перавёў спрэчку паміж двума гаспадарчымі суб'ектамі ў міждзяржаўны канфлікт, вывеў яго ў палітычную і нават ідэалягічную плашчыню. І высьветлілася, што ў гэтай сфэры Расея больш залежная ад Беларусі. Масква стала закладніцай свайго праекту па стварэньні Эўразійскага саюзу, канфлікту з ЭЗ за кантроль над краінамі постсавецкай прасторы. І напярэдадні Віленскага саміту «Ўсходняга партнэрства» рукі ў яе апынуліся зьвязанымі.

Што ж тычыцца эканамічнага чыньніку, дык тут афіцыйны Менск хутчэй прайграў. Патрабаваньне да «Ўралкалія» выплаціць кампэнсацыю за шкоду, нанесеную «Беларуськалію», ня выкананае. Расея пачала эканамічны ціск. У чацьвёртым квартале былі скарочаныя пастаўкі нафты на беларускія НПЗ. Масква тармозіць падпісаньне нафтавага пагадненьня на наступны год. Антыкрызісны фонд ЭўрАзЭС затрымлівае апошні транш крэдыту. То бок «справа Баўмгертнэра» пагоршыла і без таго вострую праблему дэфіцыту валюты. Пад такім прэсінгам РФ Менск быў вымушаны вызваліць гендырэктара «Ўралкалія».

«Справа Баўмгертнэра» фактычна легалізавала інстытут закладніцтва. У беларуска-расейскіх адносінах ён працуе

Яшчэ некалькі цікавых высноваў з гэтай «калійнай вайны». Напрыклад, яна паказала, што эканамічнае супрацоўніцтва разьвіваецца хутчэй «па паняцьцях», чым грунтуецца на законах і правілах. І гэта закладвае міну пад увесь праект Эўразійскага саюзу.

«Справа Баўмгертнэра» фактычна легалізавала інстытут закладніцтва. У беларуска-расейскіх адносінах ён працуе. Хачу нагадаць, што ўжо каля году ў беларускай турме знаходзіцца яшчэ адзін грамадзянін Расеі, дырэктар санаторыя «Беларусь» (Сочы) Генадзь Саракашыш. Цікава, што яго таксама, як і Баўмгертнэра, заманілі ў Менск на нараду.

Скандал вакол БКК рэзка падвысіў рызыкі інвэстыцый у Беларусі ці стварэньня нейкіх сумесных прадпрыемстваў. «Падвісьлі» пяць шырока абвешчаных праектаў па аб'яданьні беларускіх і расейскіх прадпрыемстваў. Заява гендырэктара КамАЗа, што ён не паедзе ў Менск, бо там яго арыштуюць, вельмі паказальная.

Цяпер урад, каб атрымаць валюту, заплянаваў вялікую прыватызацыйную праграму. Дык вось арышт Баўмгертнэра ў значнай ступені абясцэніў беларускія актывы. Таму што ў замежных інвэстараў вялікая рызыка апынуцца ў выніку нейкай прыватызацыйнай зьдзелкі ў турме. І за гэтую рызыку давядзецца плаціць беларускаму боку.

**Валер Карбалевіч**
***"Радыё Свабода"***

ПРАБЛЕМЫ ЭКАНОМІКІ

# РЭКВІЕМ ПА МАДЭРНІЗАЦЫІ

**Моцная, але неправавая дзяржава не здольная забяспечваць доўгачасовы эканамічны рост. Тым, хто ў мітусні паўсядзённых спраў забыў, што азначае дзень 7 лістапада ў найноўшай гісторыі Беларусі, нагадаю цытату з Паслання–2013: «Программа модернизации деревообработки, когда она начнет работать с хорошей прибылью, закончится к 7 ноября этого года. Это тот рубеж, когда мы народу должны явить примеры достойной работы».**

Я рэгулярна праглядаю навіны ў інтэрнэце, але дэманстрацыі народу прыкладаў годнай працы, звязаных з рэалізацыяй вышэйзгаданай праграмы, апошнім часам штосьці не прыгадваю. Аднак у мяне не паўстала праблем з пошукам прыкладаў нявартай працы. Абмяжуюся апошнім, пра які паведаміла БЕЛТА напярэдадні знамянальнай даты: *«КДК Брэсцкай вобласці выявіў шматлікія парушэнні ў замежнаэканамічнай дзейнасці ЗАТ «Холдынгавая кампанія «Пінскдрэў». Падчас праверкі высвет-лена, што па 339 пастаўках пры экспарце тавараў на суму больш за 100 мільёнаў расійскіх рублёў на адрас 24 нерэзідэнтаў «Пінскдрэў» не забяспечыў своечасовае завяршэнне замежнагандлёвых аперацый».*




**Раніцай — грошы, увечары — крэслы**

Слова «мадэрнізацыя» ў Пасланні–2013 згадваецца 49 разоў! І не дзіўна, што мадэрнізацыя эканомікі нароўні з інфарматызацыяй грамадства і маштабным прыцягненнем моладзі да дзяржаўнага будаўніцтва разглядалася адзіным палітыкам (АП) у красавіку бягучага года ў якасці трох магутных нацыянальных праектаў, *«которые позволят обновить государство».*

Пры гэтым АП рашуча адпрэчыў абвінавачванні апанентаў («пятай калоны») у тым, што *«власти прибегли к новому предвыборному лозунгу. И, мол, все ограничится пустыми разговорами».* Не магу ўтрымацца, каб не прывесці яшчэ адну цытату: *«Они* (апаненты — С. Н.) *приходят к стран-ному выводу: якобы потенциал роста конкурентоспособности белорусской продукции исчерпан и в абсолютном выражении идет деградация нашей экономики. Поэтому, мол, нужно не модернизировать ее, а просто выбросить и принять кардинально иную модель».*

Мяркуючы па заявах чальцоў урада, лагер прыхільнікаў «странных выводов» за апошнія месяцы істотна папоўніўся, прычым за кошт… чальцоў урада. Як тут ні прыгадаць заяву кіраўніка Нацыянальнага статыстычнага камітэта Уладзіміра Зіноўскага з нагоды нулявой вагі інавацыйнай прадукцыі, прынцыпова новай для сусвету, у выпуску Мінпрама. І гэта нягледзячы на маштабную мадэрнізацыю!

Міністр эканомікі **Мікалай Снапкоў** не менш рашуча ліў ваду на млын апанентаў. Прыгадаем яго словы: *«Дадад-зены кошт у цэлым па Мінпраме на гэты момант у 5 разоў ніжэй, чым у нашых канкурэнтаў. Гэта звязана найперш з выдаткамі на навуковыя даследаванні і распрацоўкі, якія не перавышаюць 0,5% ад выручкі ($4 мільёны). У той жа час такі канкурэнт, як «Джон Дзір», выдаткоўвае штогод 4–5% ад валавога прыбытку, што адпавядае $0,5-1,2 мільярда. Адпаведна, ён з'яўляецца адным з лідараў у інавацыйных тэхналогіях».*

Без грошай паставіць на паток вытворчасць інавацыйных тэхналогій, зразумела, немагчыма. Тут як у вядомай гісторыі, апісанай Ільлёй Ільфам і Яўгенам Пятровым у знакамітым рамане: «раніцай — грошы, увечары — крэслы».

Сучасны эканамічны рост заснаваны на мадэлі навукова-тэхнічнага прагрэсу (НТП). Першымі яе асвоілі еўрапейцы, але для гэтага ім трэба было прайсці праз стагоддзе рэлігійных войнаў паміж каталікаміі пратэстантамі.Нягледзячына шматлікія ахвяры выявіць пераможцаў у тых войнах так і не атрымалася. Але менавіта гэты факт і прызнаецца сёння ў якасці галоўнага выніку рэлігійных войнаў. Ён ліквідаваў манапалізм царквы на праўду, што дазволіла, у прыватнасці, адмяніць забарону на збіранне банкаўскага працэнта. Такім чынам, была знятая галоўная перашкода на шляху фармавання сучаснай фінансавай сістэмы.

**Нішто сабе карэктыровачка!**

Перафразую класіка: раніцай — грошы, увечары — інавацыі. Аднак сам факт наяўнасці грошай аўтаматычна не вядзе да стварэння інавацыі. Справядлівасць гэтай высновы прэм'ер-міністр **Міхаіл Мясніковіч** праілюстраваў на лютаўскім пасяджэнні Саўміна.

Паводле агучанай другой асобай дзяржавы інфармацыі, за сем гадоў у прамысловасць Беларусі ўкладзена $31,5 мільярда інвестыцый, а атрымана дададзенага кошту толькі на $19,2 мільярда.

Але ж планы будаваліся напалеонаўскія. Іх ініцыятары зыходзілі з разліку, што *«каждый вложенный рубль инвестиций должен давать 2–3 рубля добавленной стоимости».* Але рубель не апраўдаў ускладзеных на яго надзей. Адказваць жа за яго няздольнасць укладвацца ў «беларускую мадэль эканамічнага развіцця» сёння даводзіцца чыноўнікам, у тым ліку і тым, што займаюць вышэй-шыя дзяржаўныя пасты.

Мне ўжо неаднаразова даводзілася адзначаць, што асноўнае пытанне любой мадэрнізацыі — гэта пытанне яе суб'екта. У рамках айчыннай мадэлі такім з'яўляецца чыноўнік ужо ў сілу таго факту, што функцыянаванне айчыннай мадэлі не прадугледжвае існавання іншых суб'ектаў. Яна монасуб'ектна па сваёй прыродзе.

Тут самы час звярнуцца па дапамогу да сацыёлага **Георгія Сатарава**: *«Рухацца наперад можна толькі на дзвюх нагах. А ў нас нага пад назвай «улада» лічыць нагу пад назвай «грамадства» чымсьці лішнім і цяжкім. А ў выніку мы з-за гэтага адчуваем сябе нейкімі адсталымі. Ёсць краіны перадавога фронту, яны ідуць у будучыню, а мы дзесьці ў другім і трэцім эшалоне. Але знаходжанне ў перадавой хвалі забяспечваецца толькі рухам на дзвюх нагах. Прычым першы крок у будучыню робіць менавіта грамадства».*

Да чаго можна даскакацца на адной назе? Мой варыянт адказу — да рэвалюцыйнай сітуацыі. Нагадаю яе вызначэнне ў ленінскай трактоўцы: *«Для рэвалюцыі недастаткова таго, каб нізы не хацелі жыць, як раней. Для яе неабходна яшчэ, каб вярхі не маглі гаспадарыць і кіраваць, як раней».*

Што такое эфектыўная ўлада (эфектыўныя вярхі)? Гэта ўлада, якая ставіць перад сабой задачы і выконвае іх, ці, кажучы словамі АП, гэта ўлада, здольная народу *«явить примеры достойной работы».*

Пасля трэціх прэзідэнцкіх выбараў папаўняць спіс такіх прыкладаў *«достойной работы»* ва ўлады атрымоўвалася з кожным годам усё горш, а пасля чацвёртых — справа зусім застапарылася. Для таго, каб у гэтым пераканацца, дастаткова адкрыць Праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2011–2015 гады, ухваленую чацвёртым Усебеларускім народным сходам.

Абмяжуюся адным прыкладам: у 2015 годзе запланавана пабудаваць 9,5–10 мільёнаў квадратных метраў жылля. План на бягучы год — 6,5 мільёна квадратных метраў. Выкананы ён будзе працэнтаў на 70. Гэта не мая здагадка. Гэта ўдакладнены ў кастрычніку прагноз урада. Але ў 2014 годзе наша выканаўчая ўлада плануе пабудаваць 2,5 мільёна квадратных метраў. Нішто сабе карэктыровачка!

***

8 лістапада на недагледжанай тэры-торыі ААТ «Барысаўдрэў» прагучалі магутныя акорды «Рэквіема па мадэрнізацыі» («рэквіем» ад лацінскага «requiem», літаральна «(на) спачын» — памінальная служба ў каталіцкай і лютэранскай цэрквах, адпавядае памінальнай літургіі ў праваслаўнай царкве). Але «Рэквіем па мадэрнізацыі» не варта разглядаць у якасці самастойнага музычнага твора. Ён — усяго толькі ўверцюра «Рэквіему па сацыяльных абавязках дзяржавы, прынятых на чацвёртым Усебеларускім народным сходзе».

Беларускаму грамадству на ўсведамленне наступстваў «музычнай» прэм'еры спатрэбіцца час. Спадзяюся, што не больш за 3–4 месяцы.

*(у скарачэнні)*

**Сяргей Нікалюк**

**"Новы час"**

*(поўнасцю на сайце: http://novychas.info/palityka/rekvijem_pa_madernizacyi1/)*

ПАДАТКІ

# МЯСНІКОВІЧ НАЗВАЎ ПАМЕР ПАДАТКУ НА АЎТО

**Уладальнікам «Жыгулёў» прыйдзецца заплаціць Br390 тысяч дзяржпошліны ў год, «Мэрсэдэса» - Br1 мільён.**

Прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч лічыць непапулярнай, але неабходнай мерай ўвядзенне дзяржпошліны на допуск да руху транспартных сродкаў, піша «Інтэрфакс» .

«Для «Жыгулёў» гэта складзе Br390 тыс. у год, для «Фальксвагена» - Br650 тыс., за «Мэрсэдэс» трэба будзе выплаціць Br1 млн. Усё гэта мэтавым чынам пойдзе на дарогі», - заявіў кіраўнік урада, выступаючы ў пятніцу ў «парламенце».

«Так, мера можа быць непапулярная, але мы прасілі б вас падтрымаць», - сказаў Мясніковіч, звяртаючыся да «парламентарыяў».

Ён таксама адзначыў, што гэты год быў "вельмі складаным" характарызуецца «збегам неспрыяльных знешніх умоў і ўнутраных фактараў», піша БелаПАН.

«Пагоршыліся ўмовы гандлю ў калійнай і нафтавай сферах. Паводле ацэнак, за кошт пагаршэння знешніх фактараў мы недабралі 5,4% ВУП», - сказаў Мясніковіч. У такіх умовах, адзначыў ён, "галоўнае - захаваць калектывы, рынкі, працаваць рэнтабельна» .

Мясніковіч яшчэ раз заявіў, што крыніцамі папаўнення золатавалютных рэзерваў і забеспячэння выплат па вонкавым дзярждоўгу ў Беларусі павінны з'яўляцца сродкі ад прыватызацыі дзяржуласнасці.

«Мы лічым, што нарошчваць золатавалютныя рэзервы і выплачваць міжнародныя даўгі трэба толькі за кошт прыватызацыі, і тады можна будзе падтрымліваць у нармальным стане плацежны баланс і забяспечваць эканамічную бяспеку», - заявіў ён.

«Гэта бяспечней, чым браць новыя крэдыты. А то ў нас жа як бывае: грошы ўзялі і прасвісталі іх невядома куды», - дадаў кіраўнік урада .

Мясніковіч нагадаў, што ў 2014 годзе Беларусь разлічвае атрымаць ад прыватызацыі дзяржуласнасці $2,5 млрд.

**"Наша Ніва"**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 28.11.2013 у 17.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.